*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 49(105) ◈ 9 снежня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

# Чарговы з'езд Таварыства — у сакавіку 1993

***З пасяджэння Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны***

На чарговым пасяджэнні Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны заслухана інфармацыя старшыні сталічнай суполкі прафесара Міколы Савіцкага аб тым, што на нядаўняй канферэнцыі Менская гарадская арганізацыя ТБМ запатрабавала правесці рэспубліканскі з'езд ТБМ не пазней сярэдзіны снежня сёлетняга года. Ён падкрэсліў, што матывацыяй ініцыятывы гарадской канферэнцыі з'яўляецца рэальнае разуменне сучаснага стану выканання Закона аб мовах.

Старшыня Рэспубліканскай Рады ТБМ Ніл Гілевіч папрасіў удзельнікаў пасяджэння спакойна абмеркаваць прапанову, узважыць усе «за» і «супраць» у вырашэнні пытання аб скліканні з'езда. Так, зазначыў Ніл Гілевіч, усе мы незадаволены ходам выканання Закона аб мовах. Але якія рашэнні мы гатовы прапанаваць нечарговаму з'езду? Хуценька сабрацца дзеля таго, каб напісаць яшчэ адзін зварот, а пасля? Разыдземся, раз'едземся — і ўсё?

Далей у спрэчку ўступіў пісьменнік Барыс Сачанка:

— У нас няма прычын для склікання надзвычайнага з'езда. Працэс беларусізацыі штучна не паскорыш. Усё ж многа зроблена добрага. У прыватнасці, і Міністэрствам інфармацыі. Наколькі я ведаю, рашуча ўключылася ў гэтую справу і Міністэрства абароны.

Міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч падкрэсліў, што патрэба ў нечарговым з'ездзе ёсць. Але ж ці рэальны тэрмін — снежань гэтага года? Міністр прапанаваў кампраміснае рашэнне — правесці чарговы з'езд не ў чэрвені, а ў сакавіку. У яго выступленні прагучала шмат цікавых канструктыўных прапаноў. У іх шэрагу — і правядзенне больш рашучых захадаў з боку ўрада па выкананні Закона аб мовах. Чаму б, да прыкладу, на калегіях усіх міністэрстваў не разгледзець гэтае пытанне і прыняць адпаведныя меры?..

Пра тое, якія клопаты ў справе ведання мовы стаяць перад грамадзянамі ЗША, расказаў Анатоль Белы. Чаму б і ў нашай дзяржаве, прымаючы некага на працу, не выпрабоўваць яго моўнымі тэстамі?

Шмат слушных прапаноў гучала і ў выступленнях другіх сяброў Рэспубліканскай Рады ТБМ — спадароў А. Белакоза, Л. Ліпеня, А. Жамойціна, Э. Ялугіна, Р. Гарэцкага і іншых.

Асобна хацелася б спыніцца на вострай крытычнай прамове Вінцука Вячоркі. Ён зазначыў, што з'езд неабходны найперш дзеля таго, каб дакладна вызначыць ролю арганізацыі ў грамадстве. На парадак дня з'езда павінны быць вынесены наступныя пытанні: першае — метады працы, другое — бачанне мэтаў ТБМ, трэцяе — формы кіравання рэспубліканскай арганізацыяй.

Пасля працяглага абмеркавання Рэспубліканская Рада прыняла рашэнне аб скліканні трэцяга чарговага з'езда ТБМ імя Ф. Скарыны ў канцы сакавіка 1993 года. Акрамя таго, вырашана правесці ў студзені наступнага года рэспубліканскую нараду па пытаннях лепшай арганізацыі працы ТБМ. І яшчэ. Сакратарыяту Рэспубліканскай Рады даручана падрыхтаваць Зварот да Вярхоўнага Савета, урада Рэспублікі Беларусь, у якім выказаць незадавальненне ходам выканання Закона аб мовах.

А. КАРЛЮКЕВІЧ.




Фаіна Іванаўна Грамыка (на здымку) працуе ў школе не першы год. За плячыма — багаты жыццёвы і педагагічны вопыт. Усе гады сваёй працы настаўніца пачатковых класаў політэхнічнай гімназіі № 13 г. Менска вучыла дзяцей шанаваць і любіць роднае слова.

**Фота Лявона ДУБАНЕВІЧА.**

## Вайскоўцаў падтрымлівае Рада ТБМ

*Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны заслухала невялікую справаздачу ваеннага журналіста падпалкоўніка Святаслава Асіноўскага пра беларусізацыю на старонках газеты Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь «Во славу Родины». А робіцца там і сапраўды няшмала. Свайго чытача знайшлі пастаянная тэматычная старонка «Паходня», рубрыка «Беларусь: архівы часу...»*

*У ходзе гаворкі была выказана ідэя аб стварэнні вайсковага гісторыка- публіцыстычнага, літаратурна-мастацкага і навукова-тэарэтычнага часопіса. Прапанову ініцыятыўнай групы вайскоўцаў ухваліла Рэспубліканская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны, паабяцаўшы аказаць і падтрымку. Ёсць ужо і назва ў будучага часопіса — «Паходня».*

*Наш карэспандэнт*

## ПОСТУП ТЫДНЯ



НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ ПРЫНЯТЫ І ЗМЕШЧАНЫ Ў ДРУКУ ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ АХОВЕ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ», які забяспечвае зберажэнне, належнае ўтрыманне, адпаведнае рацыянальнае выкарыстанне, аднаўленне і памнажэнне нашай гісторыка-культурнай спадчыны. Дзеючы Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» страціць сваю сілу 1 мая 1933 года.

***ПЕРШЫ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ МІХАСЬ МЯСНІКОВІЧ ЗАЦВЕРДЗІЎ ПРАГРАМУ МЕР**, якія забяспечваюць развіццё рынку каштоўных папер і функцыяніравання фондавых біржаў на аснове раздзяржаўлення і прыватызацыі па прыватызацыйных чэках.*

ПРАЙШЛА ДРУГАЯ КАНСУЛЬТАТЫЎНАЯ НАРАДА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ БЕЛАРУСІ, у якой прынялі ўдзел ТБМ імя Ф. Скарыны, БЗВ, БСДГ, Партыя народнай згоды, Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі і Беларуская Сялянская партыя. Была выпрацавана стратэгія непарламенцкай апазіцыі ва ўмовах, якія ўзніклі пасля забароны рэферэндуму.

У ВІЦЕБСКУ ПРАЙШОЎ МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ СУЧАСНАЙ ХАРЭАГРАФІІ, у якім удзельнічала дванаццаць танцавальных калектываў з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Таліна і іншых гарадоў.

РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ З РАБОЧЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЛА УРАДАВАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ МАЛДОВА. У час сустрэчы было дамоўлена, што Станіслаў Шушкевіч наведае Малдову з візітам у канцы снежня, у час якога будзе падпісаны палітычны дагавор.

# ЯК ЗАБІВАЛІ БЕЛАРУСКАСЦЬ

*З чаго пачаўся заняпад нашай старадаўняй мовы, якая, нагадаю, аж чатыры стагоддзі з'яўлялася мовай дзяржаўнай у магутнай еўрапейскай краіне — Вялікім княстве Літоўскім?*

**ПРАЗ чатыры гады якраз споўніцца трохсотая гадавіна чорнай для беларусаў даты. Менавіта ў 1696 годзе на ўсеагульнай канфедэрацыі саслоўяў Рэчы Паспалітай зацвердзілі пастанову, згодна з якой у Вялікім княстве Літоўскім забаранялася пісаць дзяржаўныя дакументы па-беларуску. Так быў пакладзены пачатак зжывання нашай мовы з афіцыйнага ўжытку.**

**Пасля трох гвалтоўных падзелаў Рэчы Паспалітай у 1772, 1793 і 1795 гадах, калі большая частка этнічнай Беларусі аказалася ў складзе Расійскай імперыі, гэты негатыўны працэс працягваўся. На змену прымусовай паланізацыі прыйшла татальная русіфікацыя. Вось некаторыя яе этапы:**

**1820 год — закрыццё на Беларусі навучальных устаноў езуітаў, якія давалі вельмі грунтоўную, еўрапейскага ўзроўню адукацыю; 1836 — царскі ўказ аб увядзенні выкладання на рускай мове ва ўсіх навучальных установах Беларусі; 1839 — Полацкі сабор ліквідуе уніяцкую царкву, якая справядліва лічылася нацыянальнай беларускай царквой; 1840 — царскім указам скасаваны Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года; 1864 — уведзена палажэнне аб ільготах і перавагах пры куплі зямлі асобамі «рускага паходжання» ў так званых заходніх губернях.**

**У гэтым сумным пераліку варта асабліва адзначыць 1863 год, калі пасля вядомага паўстання ў Польшчы, Літве і на Беларусі, адным з правадыроў якога быў наш Канстанцін Каліноўскі, слова «беларускі» забаранілі нават ужываць у афіцыйных паперах. Дарэчы, гэтаму папярэднічала спроба цара Мікалая I у 1840 годзе ліквідаваць і само геаграфічнае паняцце «Беларусь».**

**У першыя гады савецкай улады бальшавіцкае кіраўніцтва пад націскам жорсткіх знешнепалітычных (варожае акружэнне, нізкі рэйтынг у свеце і іншыя істотныя фактары) і ўнутрыпалітычных абставін (правал палітыкі ваеннага камунізму, варожасць значнай часткі насельніцтва да антынароднай і авантурнай палітыкі Крамля, пастаянная барацьба за ўладу ў партыйных вярхах, агульная палітычная нестабільнасць) было змушана ажыццявіць сёе-тое, каб на месцах згладзіць вастрыню нацыянальнага пытання. Партыйнымі дырэктывамі, у прыватнасці, прадугледжвалася, што «...органы нацыянальных рэспублік і абласцей (павінны — С. А.) будавацца пераважна з людзей мясцовых, якія ведаюць мову, быт, норавы, звычаі сваіх народаў».**

**Так пачынаўся кароткі перыяд беларусізацыі нашай рэспублікі. Але ўжо з самага пачатку гэтаму працэсу быў наканаваны правал, бо так званая ленінская нацыянальная палітыка бальшавікоў не мела нічога агульнага з ідэямі сапраўднага нацыянальнага Адраджэння. Вось што, напрыклад, пісаў у «Звезде» яшчэ 6 кастрычніка 1918 года сакратар ЦК КП (бальшавікоў) Беларусі, кіраўнік савецкага ўрада Беларусі Вільгельм Кнорын: «Мы лічым, што беларусы не з'яўляюцца нацыяй: што тыя этнічныя асаблівасці, якія вылучаюць іх ад астатніх рускіх, павінны быць зжыты...» Каментары тут, відаць, не патрэбны. Між тым, Кнорын у 1935 годзе паспяхова стаў доктарам гістарычных навук, а імя гэтага «вернага ленінца», заклятага ворага беларушчыны і сёння носіць адна з вуліц сталіцы суверэннай Рэспублікі Беларусь...**

**У канцы 20-ых гадоў на Беларусі, вядома, па падказцы з Крамля, распачалося «паляванне на ведзьмаў». Пад ілжывы шыльдай барацьбы з буржуазным нацыяналізмам палкіх змагароў за беларускую нацыянальную ідэю, за сапраўднае Адраджэнне сталі абвінавачваць у нацдэмаўшчыне, якую нават атаясамлялі з фашызмам. Лепшыя, самаахвярныя сыны нашай Бацькаўшчыны абсалютна беспадстаўна абвяшчаліся «ворагамі народа». Што на справе гэта азначала для іх — цяпер агульнавядома. У выніку практычна ўся тагачасная нацыянальная беларуская інтэлігенцыя была фізічна знішчана ці пад страхам смерці выключана з грамадскага жыцця. Гэтыя людзі пацярпелі толькі за тое, што былі нацыянальна свядомымі беларусамі. І камуністычныя ўлады, трэба сказаць, дасягнулі свайго, бо звычайны чалавек з жахам зразумеў: якая ўжо тут беларускасць, калі за яе непазбежна чакаюць краты, здзекі, Сібір і смерць...**

**...Час хуткаплынны. Ужо няма таталітарнага СССР. Мацуе суверэнітэт незалежная Беларусь. У беларускай дзяржаве, якую прызналі шмат краін свету, урэшце адроджаны яе старадаўнія сцяг і герб. Ёсць у нас і свой Закон аб мовах, які надае роднай мове статус дзяржаўнай. Але пакуль што няма галоўнага — беларусаў, якія з радасцю і ахвотай размаўляюць на сваёй мове. Бо жменька гуманітарнай інтэлігенцыі разам з вясковымі дзядкамі ды бабулькамі — далёка не ўвесь народ. У гэткіх умовах беларуская мова можа неўзабаве стаць нейкай сучаснай «лацінай», якой будуць валодаць толькі прафесіяналы-філолагі.**

**Як жа пазбегнуць нацыянальнай трагедыі? Адкажу коратка: перш за ўсё няўхільна выконваць кожную літару Закона аб мовах. Ці здолеем мы ажыццявіць яго? Ці загаворым па-беларуску?**

**Усё ўрэшце залежыць ад кожнага з нас, ад тых, хто лічыць сябе беларусам, хто хоча ім сапраўды стаць. Хочацца верыць, што беларусы з годнасцю вытрымаюць гэтае гістарычнае выпрабаванне.**

**С. АСІНОЎСКІ,**
**падпалкоўнік.**

# ВОЙСКУ — БЫЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ

АМАЛЬ кожную раніцу з боллю ў душы пытаю сябе: што там сёння яшчэ прыдумаюць таварышы-шавіністы, каб перашкодзіць беларускаму Адраджэнню і станаўленню нашай незалежнасці.

Мяне, былога франтавіка, асабліва цікавіць стаўленне да беларушчыны ў вайсковых калектывах, непакоіць лёс нацыянальнага войска, баявых традыцый, якія нарадзіліся ў глыбіні стагоддзяў.

Вельмі турбуюць погляды і настроі тых людзей у пагонах, якіх ахапіла настальгія па СССР. Ім упоперак горла сталі дэмакратыя, наш суверэнітэт і ўвогуле беларускасць. Нядаўна я адпачываў у Лепельскім санаторыі Міністэрства абароны рэспублікі. Чаго там толькі не наслухаўся! Не, медперсанал тут ні пры чым: я маю на ўвазе афіцэраў і прапаршчыкаў, а таксама адстаўнікоў, з якімі разам лячыўся. Адны з іх на ўвесь камандзірскі голас пелі дыфірамбы «мудраму» сталінскаму кіраўніцтву, другія з жарам даказвалі сваю адданасць «дорогому Леониду Ильичу». Уяўляеце? Амаль усе яны даўно ўжо жывуць на нашай зямлі, наш народ працуе на іх пенсіі, але пазіраюць на сумленных беларусаў, мякка кажучы, з пачуццём відавочнай перавагі.

У штабе адной часці быў афіцэр, які добра ведаў дзяржаўную мову і хацеў дапамагчы вывучаць яе таварышам па службе. Як жа яны адгукнуліся на гэту прапанову? «Надоел он нам,— расказваў маёр у санаторыі.— Мы ему в глаза плюём, а он всё со своей мужицкой мовой лезет. Правильно, что выгнали из армии». «Русскоязычные» з прыкметным задавальненнем усяляк падтаквалі прамоўцу, а некаторыя тэарэтызавалі: беларуская мова, маўляў,— «диалект», народ жа наш — «боковой отросток», які ідзе ад «главного ствола». Кожны, хто не здрадзіў роднай (беларускай) мове, для іх «националист», а сябе яны называлі «интернационалистами». І так амаль кожны божы дзень.

Выказванні супраць беларушчыны распаўсюджваюцца і ў вайсковым друку (і не толькі ў нашым). Асабліва абурылі мяне словы падпалкоўніка Ю. Д. наконт свята Беларускай вайсковай славы, якое адбылося 8 верасня ў Менску (гл.: «Во славу Родины» за 22 верасня). Наіўна было чакаць, што падзея, названая В. Быкавым гістарычнай, спадабаецца тым, хто дагэтуль жыве ў палоне ідэалагічных міфаў пра мінулае. Я не супраць плюралізму, але абзываць удзельнікаў акцыі «нелюдьми» (таму, што яны нібы «могут радоваться, когда братья проливают кровь»),— значыць, сама меней, выйсці за рамкі прыстойнасці.

Памятаю, у час вайны так называлі фашыстаў, калі яны здзекаваліся над безабароннымі дзецьмі і жанчынамі. А цяпер гэтыя абразлівыя словы пушчаны на адрас вядомых беларускіх пісьменнікаў і вучоных, народных дэпутатаў, кіраўнікоў дэмакратычных партый і рухаў, ветэранаў вайны і працы, афіцэраў. А «віна» іх у тым, што яны раней за іншых усвядомілі: трэба вярнуць народу адабраную ў яго гісторыю!

Што датычыць гістарычнай бітвы пад Оршай 1514 года, то заўважу: тыя, хто прыйшоў тады на беларускую зямлю з вайной, былі не браты, а захопнікі. Таму з імі нашы продкі абышліся, так бы мовіць, адпаведным чынам. Дарэчы, няўжо ўсе нашы суседзі калі-небудзь віталі агрэсара хлебам-соллю?

Апошнім часам у Расіі шырока адзначалі або рыхтуюцца адзначыць угодкі розных ваенных перамог сваіх войск над чужаземцамі. Я не чуў, каб дзесьці прагучала незадаволенасць гэтым. Наадварот, была і ёсць вялікая падтрымка з усіх бакоў. Бо ці ж разумна аддаваць забыццю мінулае, без якога няма будучага? Асабліва добра зведалі, што такое гістарычнае бяспамяцтва, мы, беларусы. Яле як толькі пачалася вяртацца сапраўдная гісторыя нашай Бацькаўшчыны, дык зноў пачулася: «Асадзі назад!»

Цэнтральныя вайсковыя газеты дзвюх краін праявілі аднадушнасць, калі ацэньвалі згаданыя нашы ўрачыстасці. Гэта салідарнасць прымушае задумацца. З «Красной звездой» усё ясна — яна дапамагае «подняться с колен» матухне-Расіі. Гэта яе права і, відаць, абавязак. Толькі навошта перашкаджаць рабіць тое ж самае браткам-беларусам? Мы ж таксама павінны цвёрда стаяць на ўласных нагах. Цяжэй зразумець пазіцыю «Во славу Родины». Чытаеш іншы раз матэрыял, і бярэ сумненне: няўжо яе выдаўцом зноў стаў ваенны савет ЧБВА?..

Як вядома, для пераважнай большасці нашых афіцэраў суверэнная Беларусь — пакуль што толькі чарговае месца службы, якіх у многіх было столькі, што на пальцах не пералічыць. Не трэба думаць, што пасля прыняцця прысягі на вернасць беларускаму народу кожны вайсковец, для каго наша зямля не з'яўляецца Бацькаўшчынай, адразу ўсвядоміць сябе часцінкай гэтага народа і мовы. Спатрэбіцца немалы час і значныя намаганні, каб наша нацыянальнае войска пазбавілася ад старых, хранічных хвароб былой Савецкай Арміі, каб яно стала надзейным абаронцам незалежнай Рэспублікі Беларусь.

На жаль, ствараецца ўражанне, што знарок робіцца шмат чаго, каб зацягнуць вырашэнне існуючых праблем. Як можна было, напрыклад, столькі адкладваць прыняцце прысягі афіцэрскім корпусам? Байкай стала пытанне аб пераводзе беларусаў-вайскоўцаў на службу ў сваю рэспубліку. У гэтай важнай справе мы цягнемся ў хвасце падзей. І не толькі таму, што ёсць цяжкасці (дзе іх няма?), але і з прычыны наўмысных перашкод. Некаторым высокім вайсковым чынам зусім не даспадобы афіцэры-патрыёты, тыя, хто ганарыцца роднай Беларуссю, паважае яе мінулае, рашуча выступае супраць службовых злоўжыванняў. І тут не магу не спытаць: скажыце, даражэнькія, каму ж, калі не патрыётам, бараніць сваю Бацькаўшчыну? Калі мы хочам, каб Беларусь стала незалежнай і суверэннай на самай справе, то наша войска абавязкова павінна стаць беларускім. І ніякім іншым!

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ,**
**маёр у адстаўцы, ветэран вайны.**

г. Менск.

*Але!*

# Імкнёмся ў Еўропу. Але ў хвасце Расіі...

**Апошнім часам можна назіраць, як пасля разбурэння «жалезнай заслоны» хуткімі тэмпамі пачала «амерыканізавацца» сучасная расійская мова. Размытасць нацыянальнага пачатку ў духоўным патэнцыяле Расіі ў выніку яе імперскага існавання адбілася кепскім жартам на расійскай мове. Яна «амерыканізуецца» хутчэй за заходнееўрапейскія мовы, нягледзячы нават на такую быццам бы сур'ёзную перашкоду, як адрозненні ў графіцы. Праглядаючы рэкламу ў расійскіх газетах, знойдзеш там і «офисы», і «траст-сертификаты», і «маркетинг», і «холдинговые кампании», і «брокеров», і яшчэ шмат падобнага. У гэтай з'яве можна заўважыць спрадвечную расійскую манеру пераймаць знешнія рысы чужой цывілізацыі — калі «рубіць акно ў Еўропу». Цікава, што пры гэтым застаецца амаль некранутым цэлы пласт лексікі, які склаўся ў расійскай мове за час існавання ў дабальшавіцкай Расіі рынкавай эканомікі і некаторых дэмакратычных інстытутаў.**

**На старонках беларускіх газет дамінуе расійскамоўная рэклама, якая таксама чытаецца часам, як напісаны кірыліцай англамоўны тэкст, цяжка зразумелы без спецыяльнага слоўніка. Такім чынам праяўляецца тое, што не толькі ў палітыцы, але і ў эканоміцы мы рухаемся следам за Расіяй, старанна капіруючы яе манеры і кепскія звычкі «старэйшага брата». Апошні прыклад — «ваўчэры» і «ваўчэрызацыя».**

**Гэтая з'ява стварае і пэўны псіхалагічны эфект — незнаёмыя і незразумелыя словы аддаляюць звычайнага грамадзяніна ад негатыўных палітычных і эканамічных працэсаў у краіне.**

**Віктар СЦЯПАНАЎ.**
**г. Орша.**

*З пісьменніцкага стала*

# СТАРОНКІ ПРАВІНЦЫЙНАГА РАМАНА

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 46—48).*

Росквіт расійскай «дэмакратыі» прывёў да таго, што з 1893 года ў выбарах дазволена было ўдзельнічаць толькі гараджанам, кошт нерухомай маёмасці якіх быў не меней за тысячу рублёў. Такіх у Полацку набраўся ўсяго адзін працэнт.

У дзейнасці «бацькоў горада», як і ва ўсе часы, хапала злоўжыванняў. У 1913-ым з прычыны падлогаў вынікі выбараў у думу двойчы апратэстоўваліся. На пачатку стагоддзя залез у гарадскую скарбоўню абраны галавою буйны купец Шпакаў. Гісторыя выплыла на свет, і злодзей развітаўся з утульным крэслам. Аддамо царскім уладам належнае: такіх, як Шпакаў, яны на іншае цёплае месца звычайна не пераводзілі. На просьбу адстаўнога думскага старшыні пакінуць яго на пасадзе нават без грашовага ўтрымання міністэрства ўнутраных спраў наклала з'едліва-суровую рэзалюцыю: «Проворовавшийся городской голова нам не нужен, даже при согласии служить бесплатно».

Магчыма, сённяшнім полацкім ахоўнікам закона будзе цікава даведацца, што стагоддзе таму галоўная доля крымінальных і грамадзянскіх спраў у гарадскім і павятовым судах прыпадала на нявыплату падаткаў, адмаўленне ад штрафаў, патраву панскіх палёў і недазволеныя рыбалку ды высечку лесу. Асуджаныя адбывалі пакаранне не толькі за турэмнымі кратамі, але і ў манастырах. Ёсць звесткі пра Акуліну Міхайлаву, што атрымала «за блудную жизнь» сем гадоў, з якіх адзін мусіла бавіць у Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры, ходзячы на ўсе набажэнствы і завяршаючы кожнае дваццацю пяццю «коленопреклонениями».

Мураўёў-вешальнік, прэтэндуючы і на ролю асветніка, падаваў імператару дакладную запіску: «Для утверждения русского владычества в Северо-Западном крае, необходимо заместить все преподавательские места учителями из России. Обратить особенное внимание на правильное преподавание русской истории и в особенности истории западной России. Подтвердить окончательно о повсеместном введении русского языка...» Інструкцыя царскага міністэрства народнай асветы літасціва дазваляла карыстацца ў школе «белорусским наречием» толькі пры тлумачэнні незразумелых дзецям расійскіх слоў.

Кожны вучань павінен быў атрымаць цвёрдае перакананне, што яго зямля заўсёды была і будзе расійскаю. На Беларусь магутным русіфікатарскім валам абрынуўся 75-тысячны наклад прызначанай вучням «Книги для чтения на простонародном наречии». Яна складалася з расійскіх песняў ды гімнаў, з апавядаў пра маскоўскіх князёў і цароў. Беларусы прывыкалі мецъ за герояў і вызваліцеляў людзей, што пазбаўлялі іхнюю радзіму незалежнасці,ператваралі яе ў калонію.

Такое выхаванне мела далёкія вынікі. З яго плёнам мы на кожным кроку сустракаемся і сёння. У кнігарні: «Ни биры эту книгу, ана на биларускам». У выступленні парламентарыя, што з трыбуны сесіі на ўсю рэспубліку даводзіць, быццам без Расіі мы не вызваліліся б ад татарскага прыгнёту (якога ў нас ніколі не было). У паводзінах намесніка старшыні Полацкага гарсавета таварыша Камарова, які выклікаў узмоцнены нарад міліцыі, калі прадстаўнікі рады БНФ прыехалі ўзняць над ягоным кабінетам ужо зацверджаны парламентам дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг Рэспублікі Беларусь. (Адзін з ахоўнікаў парадку — я сам быў сведкам — выскачыўшы з «варанка», яшчэ і закрычаў: «Кто здесь вывешивает фашистское знамя?»).

Больш грунтоўнай гаворкі з полацкіх школ усіх рангаў заслугоўвае настаўніцкая семінарыя, на адкрыцці якой у верасні 1872 года прысутнічаў міністр асветы граф Д. Талстой...

Праграма навучання падрыхтоўчага і трох асноўных класаў: закон Божы, педагогіка і асновы методыкі, расійская і царкоўна-славянская мовы, арыфметыка, геаметрыя, расійская гісторыя, геаграфія, прыродазнаўства, рысаванне, чыстапісанне, гімнастыка. На музычных занятках семінарысты вучыліся спяваць па нотах, граць на скрыпцы і кіраваць хорам. На ўроках ручной працы асвойвалі пераплётнае майстэрства і пляценне кошыкаў.

У пераліку найважнейшых падзей у жыцці семінарыі знаходзім святкаванні: 100-годдзе з дня нараджэння імператара Аляксандра I, 25-годдзе кіравання цара-«освободителя» Аляксандра II, дзень каранацыі цара-«миротворца» Аляксандра III, 50-годдзе «воссоединения» беларускіх уніятаў з праваслаўнай царквой, сотыя ўгодкі смерці Суворава... Дванаццаць тостаў я налічыў у апісанні «дружеского, в полном смысле педагогического обеда», прысвечанага 25-гадоваму юбілею навучальнай установы.

Полацкім семінарыстам быў паэт Янка Журба, да яго літаратурных заслуг далучым і той факт, што менавіта ён пераканаў пісаць па-беларуску будучага аўтара «Міколкі-паравоза» Міхася Лынькова. (Удзячныя нашчадкі будуць так шанаваць паэтаву памяць, што ў 60-ыя гады нават імя на ўбогім помнічку з мармуровай крошкі на полацкіх Ксавэр'еўскіх могілках напішуць з памылкаю: «Янко».)

І яшчэ адна дэталь. У сямідзесятыя гады таго стагоддзя Полацк ледзь зноў не зрабіўся універсітэцкім горадам. Адчыніўшы настаўніцкую семінарыю, граф Д. Талстой «во всеподданнейшем отчете указал на желательность устройства в Полоцке университета для поднятия русского дела в Западном крае». Аляксандр II паставіў рэзалюцыю «Да», а на словах пра тое, што альма-матэр магла б мясціцца ў будынку вайсковай гімназіі, напісаў: «Снестись с военным министром». Ваеннае ведамства запатрабавала 400 тысяч рублёў, і ідэю пахавалі ў нетрах канцылярый.

Мінулае стагоддзе скончылася ў Полацку досыць адметна: у 1900-ым туды, хаваючыся ад паліцыі, прыехаў і стаў на кватэру адзін з блізкіх падручных Леніна Іван Бабушкін. Пра тое, як ён змайстраваў там зэдлік з «сакрэтам» і пашырыў пятнаццаць асобнікаў «Искры», нашыя гісторыкі і краязнаўцы панапісвалі столькі, што я адразу стаўлю кропку. Прапушчу і тэму «роста классового самосознания». Яна «даследавана» так грунтоўна, што зроблена нават адкрыццё пра бальшавіцкасць полацкай філіі РСДРП у тыя гады, хоць ніякіх бальшавіцкіх арганізацый тады на Беларусі не было.

Насунуўся 1905 год. Па вуліцах Полацка пайшлі дэманстрацыі, залупалі чырвоныя сцягі, загучалі стрэлы. З іскры разгаралася полымя. Яно ператворыцца ў пажар, дзе згараць і задыхнуцца ад дыму дзесяткі мільёнаў людзей...

*Уладзімір АРЛОЎ*



*Згадкі*

# *Песні вызваленчага руху*

Як вядома, паміж дзвюма сусветнымі войнамі Заходняя Беларусь знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай. Польскія ўлады называлі гэту тэрыторыю «ўсходнімі крэсамі» («уходнімі ўскраінамі»), лічылі яе сваёй, матывуючы тым, што тут засталося шмат іх спадчыны. Сапраўды, калі быць аб'ектыўным, то на нашай зямлі нарадзіліся такія выдатныя сыны польскага народа, як Адам Міцкевіч, Тадэвуш Касцюшка, нават апошні польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, а таксама і «начальнік Польскай дзяржавы» Язэп Пілсудскі. Але нельга не сказаць і пра тое, што такія вядомыя дзеячы культуры, літаратуры, як Уладзіслаў Сыракомля, Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Станіслаў Манюшка плённа працавалі не толькі на польскай, а і на беларускай культурнай ніве. Самым мо яркім сведчаннем такога польска-беларускага супольніцтва з'яўляецца асоба Кастуся Каліноўскага, які быў адным з кіраўнікоў гераічнага паўстання 1863 года, уздымаў праз сваю беларускую газету «Мужыцкая праўда» беларусаў на барацьбу супраць царызму.

Усё гэта так, аднак трэба памятаць, што згаданыя і іншыя дзеячы паходзілі з даволі заможных сфер грамадства, а найбольш распаўсюджаная групоўка паўстанцаў паходзіла з немаёмаснай, так званай «засцянковай шляхты» і каталіцкага духавенства. Сам жа «тутэйшы» народ, пераважна сяляне, складаўся з беларусаў. Імі яны заставаліся ў Заходняй Беларусі і ў дваццатыя, трыццатыя гады. Такімі яны ёсць і па сённяшні дзень. Адно з верагодных пацвярджэнняў гэтаму, акрамя, зразумела, гістарычных і палітычных аспектаў,— песні, што спяваліся тады, у вельмі неспрыяльныя часы польскага панавання, ды і цяпер спяваюцца беларускім народам. Наш славуты этнограф, збіральнік беларускіх народных песень Рыгор Раманавіч Шырма, 100-годдзе з дня нараджэння якога сёлета адзначалася, падкрэсліваў, што народная песня — гэта душа народа. Сапраўды, мо таму, што з намі былі нашы беларускія песні, мы і выстаялі ў тыя часы.

Найбольш папулярнай, распаўсюджанай і любай у міжваенны перыяд была песня «Люблю» Канстанцыі Буйло. Яе спявалі найчасцей і паўсюдна: на вячорках, у святы, на гуляннях. Гэта — песня-гімн любові да роднай Бацькаўшчыны, да свайго беларускага народа, амаль песня-малітва. Спяваліся і іншыя беларускія песні: лірычныя, жартаўлівыя. Але мы затрымаемся на песнях выразнага грамадскага і патрыятычнага гучання.

Памятаецца, сярод моладзі, асабліва вучнёўскай, папулярнай была песня:

Не пагаснуць зоркі ў небе,
Пакуль неба будзе.
Не загіне край наш родны,
Пакуль будуць людзі.

Асабліва ўздымалі патрыятычныя настроі наступныя радкі:

Зацвіце наш край, як сонца
Пасля непагоды.
Раўнапраўны, роўны станем,
Як і ўсе пароды.

Гімнам Беларускай сялянска-рабочай грамады ў свой час лічылася такая песня:

Адвеку мы спалі,
І нас разбудзілі.
Сказалі, што трэба рабіць.
Што трэба свабоду, зямлю чалавеку,
Што трэба навуку здабыць.

Была і песня на патрыятычную тэму:

Сціхні ты, змоўкні, песня пакуты,
Заварушыся, наш край.
Люд беларускі, рві свае путы,
Новую песню спявай.

Будзем мы самі гаспадарамі,
Долі сваёй кавалі.
Годзе і досыць
Пануківаць намі.
Прэч з нашай роднай зямлі!

Былі і ваяўніча-сатырычныя, накшталт наступнай:

Век дваццаты, век прыгожы,
Усе паны шліфуюць рожы.
Жывот у кожнага з кадушку,
Што здаецца — з'еў цялушку,
У бой, бой вы, беларусы,
Смела ў бой, скідай прымусы.
У бой, бой, бой,
А за праўду, волю стой, стой!

Гэта толькі некаторыя песні, якія спяваліся тады на Міршчыне, на Карэліччыне. Невядомымі былі аўтары слоў, кампазітары, бо ніхто песень тых не друкаваў, хіба ў падпольным камуністычным друку, перадаваліся яны вусна ад чалавека да чалавека. Відаць, надышоў час, каб сабраць усе гэтакія песні, апрацаваць і выдаць асобным зборнікам. Выходзілі ж у нас такія, напрыклад, у 1976 годзе у выдавецтве «Беларусь». І мне здаецца, што адкрыць яго неабходна новым гімнам Рэспублікі Беларусь, які зараз ствараецца. Мабыць, у першую чаргу варта гэтым заняцца Саюзу кампазітараў Беларусі. Ім нашы людзі скажуць шчыры дзякуй!

**Вячаслаў ХІЛІМОНАЎ.**

г. п. Мір.

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—48).*

— Вы адзін? — запытаўся ён.

Я пазнаў голас: гэта быў той самы тып, з якім я гаварыў па тэлефоне...

— Адзін,— адказаў я.— Гэта вы гаварылі са мною нядаўна па тэлефоне? Я пытаўся ў вас, ці бачылі вы Віка Мэйсана. Ён яшчэ не прыйшоў?

— А, гэта вы! Вы яго сябра?

— Скажам так: у нас з ім дзелавыя зносіны. Дык ён тут?

— Тут,— усміхнуўся ён.— Ідзіце за мною.

Я рушыў услед за ім. Ніколі яшчэ ў жыцці я не бачыў такую зборню блакітных... Усе былі напарфумленыя, і кожны, мабыць, карыстаўся сваёй асабістай парфумаю, бо смярдзела ў зале гэтым неверагоднейшым букетам невыносна. Яны былі тут як у сябе дома — разняволеныя і фанабэрыстыя...

Мэйсан сядзеў з пяццю чалавекамі ў маленькім кабінеціку, у якім месца было сама болей на чатырох. На стале стаяла пустая бутэлька, у якую была ўтыркнута свечка, і некалькі шклянак.

— Можна цябе на хвілінку, Вік? — запытаўся я ў яго.

— Вядома, можна,— усміхнуўся ён.— Але спачатку прысядзь ды выпі што-небудзь. Гэй, Ларан! — запыніў ён парцье, які ўжо адыходзіў.

— Не зараз, Вік,— адказаў я.— Прабач, што адрываю цябе, але ў мяне вельмі тэрміновая справа. Давай адыдзем на хвілінку?

— Добра...

— Усяго добрага,— сказаў я астатнім.

Мы прайшлі ў вестыбюль. Я запыніўся акурат пад фатаграфіяй аголенай жанчыны.

— Вік,— пачаў я,— мы задумалі вельмі сур'ёзную справу. Ці можаш ты зрабіць мне на дватры дні грузавік для перавозкі машын?

— Можа быць...

— Без шафёра. Толькі грузавік. Шафёр нам не патрэбны. Мы самі павядзём... Заплацім добра. Дык як?

— Я думаю. Але я буду гэта ведаць толькі заўтра ўранку.

— А якой гадзіне? Калі дакладна ты зможаш мне адказаць?

— Я перагавару з людзьмі з васьмі да паловы дзевятай.

— Я вельмі спадзяюся на цябе. Я буду спаць лепш, калі буду ведаць, што ты мне зробіш гэта. Думаеш, усё будзе нармальна?

— Бадай.

— Дзякуй, Вік. Вялікі дзякуй,— я паляпаў яго па плячы.— Цяпер я нашмат лепш пачуваюся.

Я вярнуўся ў рэстарацыю, дзе мы былі з Холідэй і Манданам, і зняў на ноч нумар.

Прывёўшы мяне ў нумар, чалавек запаліў святло, завесіў вокны шторамі, паправіў коўдру і запытаўся:

— Гэта ўсё, пан?

— Усё. Дзякуй,— даў я яму паўдолара.

— Вы праўда не хочаце нічога іншага, пан? — здзівіўся ён.

— Праўда, не хачу.

Ён падміргнуў мне.

— Не сёння, дружа,— сказаў я яму.

Ён пайшоў. Адкуль ён мог ведаць, што ўпершыню за два гады я буду спаць адзін — увесь пакой будзе належаць мне аднаму, і што нізавошта ў свеце я не хацеў бы дзяліць свой сённяшні ложак з якойсьці дзеўкаю.

Я папрасіў па тэлефоне разбудзіць мяне а палове восьмай і пачаў раздзявацца. Ванна ўжо запаўнялася вадою. Я не думаў ні пра Мандана, ні пра Холідэй. Ну іх... Я думаў пра заўтрашні дзень.

## III

Я быў у Мэйсана ўжо без пяці восем.

— Ну што? Перагаварыў? — запытаўся я.

— Сёння будзе грузавік. Гэта будзе каштаваць табе семдзесят пяць долараў за тры дні. Менш яны не бяруць. Нармалёва?

— Яшчэ як!

— Не можаш сказаць, што за справа?

— Трэба яшчэ сёе-тое ўдакладніць. Пасля растлумачу... Падрыхтуй мне «Зэфіру».

— Добра,— сказаў ён і выйшаў.

Я зняў тэлефонную трубку і патэлефанаваў Мандану.

— Алё! — пачуў я неўзабаве ягоны ўладны голас.

— Гэта вы, Мандан?

— Хто ля апарата?

— Поль.

— Поль?..

— Хлопец, якога вы ўчора пакінулі.

— А... Дык куды ж вы зніклі?

— Доўгая гісторыя. А зараз слухайце мяне ўважліва. Усё ў парадку. Трэба варушыцца. Прыходзьце ў кабінет Уэбэра а палове дзесятай.

— Чакайце! — запярэчыў ён.— Я не ведаю, калі Уэбэр туды прыходзіць. Можа, гэта залішне рана?

— Значыцца, вам трэба яго раскапаць.

— Добра,— буркнуў ён.— Пастараюся.

Пасля я пазваніў Холідэй. Адказаў Джынкс.

— Як жыццё, жаўжык? — спытаўся я.

— Дзе ты?

— У ніжняй частцы горада. Холідэй дома?

— Яшчэ спіць.

— Няхай спіць далей. Чакай мяне праз пятнаццаць хвілін перад домам.

— А што такое?

— Сустрэнемся — растлумачу. І пастарайся выйсці з дому так, каб не разбудзіць Холідэй...

Я выйшаў з кабінета. Мэйсан стаяў ля «Зэфіры».

— Яна ў выдатным стане,— сказаў ён...

— Дзякуй.— Я сядаў ужо ў машыну, калі непадалёк з'явіўся адзін з ганчакоў Эзры Добсана, з тых двух, што мусілі вывесці мяне са спальні Маргарэт. Ён ажно вочы вытрашчыў, гледзячы на мяне. У душы я крыху ўздрыгнуў. Мэйсан заўважыў, што мы глядзім адзін на аднаго. — Поль,— сказаў ён мне,— гэта мой швагер, Тэа Зумбра. Поль Мэрфі, Тэа.

— Вельмі прыемна,— сказаў ганчак.

— Мне таксама,— паціснуў я яму руку.

— Можаш падзякаваць яму, Поль,— сказаў Мэйсан.— Без яго ты б тут не быў...

Нарэшце я ўсё зразумеў. Гэта ён, Зумбра, дастаў аўтамат Холідэй, аўтамат, з якога яна страляла, калі я ўцякаў з дыннага поля.

— Гэта Ральф Котэр,— растлумачыў Мэйсан свайму швагру.

— О! — усклікнуў той, вельмі здзіўлены.

Ён, відаць, ніяк не мог зразумець, як гэта я мог апынуцца ў спальні Маргарэт Добсан...

Я развітаўся з імі, сеў у машыну і выехаў з гаража заднім ходам. Выязджаючы, памахаў ім рукою, яны таксама памахалі мне ў адказ. Ганчак пільна глядзеў мне ўслед.

«Куды гэта ўсё мяне завядзе?» — засталося адно спытацца ў сябе.

Джынкс чакаў мяне перад домам.

— Павядзеш машыну, добра?— сказаў я яму, перасеўшы ўбок.

— Дык што здарылася? — спытаўся ён ужо за рулём.

— Усё ў парадку. Ты, калі выходзіў, Холідэй не разбудзіў?

— Не.

— Цудоўна. Яшчэ адна сварка з ёю, і я саспею для вар'ятні. Паехалі ў гарадскую паліцыю...

— Прыдумаў што-небудзь?

— Ты ж мяне ведаеш, Джынкс.

— І што менавіта?

— Трошкі пазней. Аднак я скажу табе, над чым ты павінен падумаць. Пастарайся ўспомніць якоесьці месца непадалёк, дзе мы маглі б пакінуць «Б'юік» на пяць-шэсць гадзін, каб ніхто не засек, сам разумееш.

## IV

Я пастукаўся ў дзверы кабінета Уэбэра.

— Уваходзьце! — пачуў я голас галоўнага інспектара.

Я адчыніў дзверы і ўвайшоў разам з Джынксам.

Уэбэр сядзеў за сваім рабочым сталом, змрочны, як звычайна. Мандан сядзеў у фатэлі побач. Рыс стаяў, прытуліўшыся спінаю да вакна.

— Добры дзень,— сказаў я вельмі ветліва.

Аднак настрой у галоўнага інспектара праз тое не змяніўся.

— Вас ужо менш непакоіць гэтая гісторыя? — запытаўся я ў яго.

— Вас, ва ўсякім разе, яна ўжо зусім не непакоіць,— прабурчэў ён па звычцы.

— Вядома,— адказаў я.— Я ўсё вырашыў. Я зняў толькі што, з дапамогаю Віка Мэйсана, грузавік з закрытай перасоўнай платформай. Ён будзе ў нас ужо сёння. Неўзабаве.

— Грузавік з закрытай перасоўнай платформай? — запытаўся Рыс.

— Каб перавезці машыну.

Інспектар паглядзеў на Рыса, Мандан падаўся ўперад — яны пачыналі ўжо нешта разумець.

— Нападаем на «Б'юік» і хаваем яго дзе-небудзь. Апоўначы, калі няма ніякага руху, месцім яго на грузавік і змываемся.

— Куды? — наблізіўся да мяне Рыс.

— У накірунку да рэчкі, да моста, які ў гэты час бывае зазвычай пусты. Можа, прыйдзецца перагарадзіць яго на колькі хвілін з двух бакоў, але гэта ўжо дэталь. Нахіляем платформу да ўзроўню парэнчаў і скідваем «Б'юік» у ваду. І ён назаўсёды знікне — работа чыстая, бездакорная...

— А інкасатары?

— Я думаў, мы абгаварылі гэта ўчора ўвечары...

— Аднак...

— У прынцыпе, барацьба за жыццё заўжды бязлітасная. Вы калі-небудзь бачылі, як сокал пікіруе на курапатку?

Яны нерашуча пераглянуліся. Ніхто не сказаў ні слова...

— Гэта азначае,— паволька спытаўся Уэбэр,— што вы будзеце змушаны забіць усіх чатырох адразу ж пасля нападу?

— Менавіта так.

— А калі вы нападзеце? А якой гадзіне?

— А палове чацвёртай. Можа, у чатыры. Трэба, каб яны выбралі ўсе грошы. Інакш няма сэнсу ўсё гэта рабіць.

— І вы разлічваеце пазбавіцца ад «Б'юіка» апоўначы?

— Вядома.

— Тады на вас павісне на восем-дзевяць гадзін машына з трупамі. Дзе вы яе пакінеце?

— Што мы і вырашым зараз з Джынксам, калі выйдзем адсюль. Ён ведае мясцовасць, як свае пяць пальцаў, ці ж не так?

Джынкс у адказ кіўнуў.

— Знайсці куток, каб схаваць тачку, гэта лухта,— прадоўжыў я.— Праблема ў тым, каб знайсці паліцэйскія формы майго і Джынксавага памераў.

— Усё гэта дрэнна,— сказаў Уэбэр.— Нельга хавацца з машынаю, поўнаю трупаў, дзе б там ні было, столькі часу. Гэта вельмі рызыкоўна. Калі гэтыя людзі знікнуць у чатыры, то ў пяць ужо падымуць трывогу.

— Чаму гэта? — усміхнуўся я.— Перад усім да вас прыйдзе Ромэр. І нішто не прымушае вас уздымаць трывогу.

Ён нават не падумаў пра гэта — я мог меркаваць так па ягоным ашаломленым твары. Божа мой, як доўга буду я думаць увесь час за іншых?

— Машына, поўная мерцвякоў, перагароджвае мост,— прашаптаў ён занепакоена.

— Чакайце! — умяшаўся раптам Рыс.— Навошта непакоіцца з-за нейкага моста? Я ведаю адзін занядбаны кар'ер глыбінёю сама меней дзевяноста метраў. Чаму не скарыстаць яго?

— Што вы забыліся ў гэтым занядбаным кар'еры? — здзівіўся я.

— Чорт, няўжо вы не разумееце: яміна напоўнена вадою, як і рэчка,— здзівіўся ў сваю чаргу Рыс.— І яна нашмат глыбейшая. Гэта нашмат менш рызыкоўна, чым на любым мосце.

Выходзіць, падумаў я, Холідэй не так ужо і памылялася, калі сцвярджала, што ён разумнейшы, чым я думаю. Ідэя была неблагая. Я шырока яму ўсміхнуўся. Калі ён яшчэ раз выявіць так свой розум, то я буду змушаны аддаць яму месца Уэбэра.

## V

У тры дваццаць пяць Прат паставіў сваю патрульную машыну, бела-блакітны «Форд», на паліцэйскай стаянцы ўнізе вуліцы, непадалёк ад салона прыгажосці Гаральда. Даўні сядзеў побач з ім, спераду, я з Джынксам — ззаду. Усе мы былі адзетыя ў форму муніцыпальнай паліцыі. Над галавою Даўні, пад дахам, быў прымацаваны аўтамат, нада мною і Джынксам — другі аўтамат і аўтаматычны карабін. На падлозе, паміж маімі і Джынксавымі нагамі, стаяла валіза з нашымі цывільнымі шмоткамі, у якія мы павінны былі пераадзецца адразу ж пасля заканчэння нападу. У гэтую ж валізу перакласці грошы з валізак інкасатараў, а самі валізкі адправіць разам з людзьмі і «Б'юікам» пад ваду.

Усе маўчалі. Прат запаліў цыгарэту і закурыў. Даўні павярнуўся да мяне:

— А калі яны змянілі маршрут?

— Тады,— адказаў я,— я нічога зрабіць не магу. Адкладзём усё на наступны раз. Але я не думаю, што яны хоць у чым-небудзь могуць адмовіцца ад сваіх звычак. Навошта ім гэта рабіць? Яны робяць сваю справу, не маючы ніякага клопату гэтак даўно, што ўжо не думаюць ні пра якія перасцярогі. Вось чаму я ўпэўнены, што ўсё будзе вельмі проста... Зараз мы з Джынксам пройдзем да іхняй машыны і складзём пратакол. Калі ж яны не стануць у забароненым месцы, я што-небудзь прыдумаю. Будзе кароткая спрэчка, і мы пасадзім іх у машыну.

— Улічыце: гэта не салабоны,— заўважыў Прат.— Гэта цёртыя хлопцы.

— Вы гаворыце ўсё роўна як Уэбэр,— сказаў я. — Ведаю я іх, вашых цёртых хлопцаў. Калі мы з Джынксам сядзем у іхнюю машыну і рушым з імі, вы паедзеце за намі. Я скажу ім ехаць дарогаю ў бок кар'ера.

— Яны адразу ж западозраць нячыстае, калі вы загадаеце ім ехаць не ў бок гарадской паліцыі.

— Можаце не клапаціцца. Вашая задача — усяго толькі ехаць услед за намі... Рабіце ўсё, як загадаў вам інспектар Уэбэр. Усё павінна ісці па плану. Калі вы будзеце змушаны страляць, не пудлуйце.

Я працягнуў Джынксу цыгарэту і ўсміхнуўся:

— Спакойна, дружа,— сказаў я яму, даючы прыкурыць.— Расслабся...

Ён зрабіў некалькі зацяжак і раптам дакрануўся рукою да майго калена. Я зірнуў туды, куды глядзеў ён, і ўбачыў: побач з намі праехаў інкасатарскі «Б'юік». Ён спыніўся ў забароненым месцы, непадалёк ад салона прыгажосці. Тыя ж самыя тры чалавекі, меншы і двое буйнейшых, выйшлі з машыны і прайшлі ў салон.

*(Працяг будзе).*

